Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 200.000 м.

# ЗМАГАНЬНЕ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць два разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1.500000 м.
Для загранiцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 300.000 мк., сярод тэксту 250.000 м. і на 4 стр. 200.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 6 (27). Вільня, Чацьвер, 17-га студзеня 1924 г. Год II.

## Палітыка страуса.

Птушка страўс, калі нечага спужаецца, дык хавае галаву сваю пад крыло, думаючы, быццам напужаўшая яе небясьпека перастане істнаваць, калі яна ня будзе яе бачыць....

Нешта падобнае робіць у Заходняй Беларусі польская адміністрацыя, напалоханая з дня на дзень узрастаючай нацыянальнай сьвядомасьцяй беларускага насяленьня.

Ня гледзячы на ўсе „статыстыкі" польскага ўраду, якія паказывалі, быццам на „Kresach Wschodnich" пераважае „польская люднасьць", ня гледзячы на заявы нават польскіх нацыянал-сацыялістаў аб „польскасьці" Віленшчыны, наш народ на выбарах у варшаўскі Сойм і Сэнат даў лішне яркі доказ сваей жывучасьці і сваей лічэбнасьці. І цяпер нават польская эндэцыя, не ўспамінаючы ўжо аб гэнай фабрыкаванай агентамі польскае ўлады „польскай большасьці" ў Заходняй Беларусі, зусім шчыра прызналася на страніцах „Gaz. Warsz.", што палякі на „Kresach Wschodnich" прадстаўляюць толькі.... *меншасьць*.

Сьвядомасьць таго, што „успакаіцельная" ўрадовая статыстыка аказалася зусім нязгоднай з праўдай, вельмі напалохала польскае грамадзянства ўсіх кірункаў і ўсіх партыйных груп. Эндэкі кінуліся ладзіць арганізацыі дзеля „абароны польскасьці на Усходніх Крэсах", наладзілі зборы грошы на барацьбу з тутэйшым каранным насяленьнем. Польскія нацыянал-сацыялісты (П. П. С.), памагаўшыя эндэкам—па загаду п. Пілсудскага—„wcielić" Віленшчыну да Польшчы, на апошнім партыйным кангрэсе ў Кракаве правялі рэзалюцыю аб барацьбе з „нацыяналізмам" у беларусаў, укрываючы пад гэтымі славамі сваю істотную думку аб барацьбе з беларускім нацыянальным рухам наагул—у імя „абароны правоў польскага насяленьня" ў Заходняй Беларусі. А польскі цантральны ўрад, — ня гледзячы на зьмены свае вонкавае ахварбоўкі,—пачаў сыстэматычнае нішчэньне беларускіх школ і культурных установаў.

Маючы адпаведныя інструкцыі як ад цантральнага ўраду, так і ад партыйных сваіх верхаводаў, ніжэйшая адміністрацыя ў Заходняй Беларусі, ведама, не сядзела, злажыўшы рукі. Усюды пайшлі зьдзекі і ўцісканьне беларусаў—ці то на грунце абвінавачаньня іх у „бальшавізьме", ці то абвяшчаючы адвечных жыхароў гэтае зямлі „obcokrajowcami". Але факт астаецца фактам: нашы адміністратары на кожным кроку бачаць беларусаў, чуюць беларускую мову,—і страх перад „беларускай небясьпекай" пазбаўляе іх спакойнага сну.

Што рабіць? Як ухіліць гэту небясьпеку? Як вызваліцца ад страшнога кашмару, што ўдзень і ўночы стаіць уваччу?....

Вось, тут нехта „мудры" і ўспомніў, відаць, пра страуса і ягоную сыстэму абароны ад небясьпекі, хаваючы галаву пад крыло. Ці ў Варшаве зьявіўся той мудрагель, ці мо' на нашых „Kresach", — ня ведаем; адно толькі *палітыка страуса* пайшла ў ход у-ва ўсіх нашых староствах. А зьмяшчаецца яна вось у чым.

Прыходзе беларус у староства выбіраць пашпарт. Гаворыць пабеларуску — папольску ані ў зуб! Пытаюцца аб нацыянальнасьць. Некалі на гэтае пытаньне цёмныя людзі адказвалі проста: „тутэйшы". Цяпер ужо ведае бадай кожны, што ён беларус, дык і адказ яго — просты і ясны. Але тут-то і пачынаецца „палітыка": вынаходзяцца розныя перашкоды, якімі так дадзяваюць чалавеку, што той урэшце згаджаецца, каб у ягоным пашпарце напісалі: „*паляк*"...

У тым нумары „Змаганьня" была надрукавана аб гэтым карэспандэнцыя з Ваўкавыску. Падобныя ведамасьці мы маем і з Вялейскага павету — значыць, з другога канца краю. І гэта паказвае, што сыстэма навязываньня беларусам у пашпартох „польскае нацыянальнасьці" ўжываецца шырока...

А які вынік гэтага?

Вось, тут-то і будзе той самы вынік, які бывае ў страуса: *на пагляд* беларуская небясьпека *счэзне*, бо ў бязсэрэчных беларусаў будзе ў пашпартох напісана, што яны— „палякі". Але гэта не перарабіць нас у палякоў: наадварот, гэты лішні факт зьдзеку над беларусамі толькі збудзіць у нашага найцямнейшага селяніна пачуцьцё крыўды і гарачы пратэст, які выявіцца.. хаця-бы пры найбліжэйшых новых выбарах у Сойм!

Запраўдны-ж „беларуская небясьпека" ад гэткага фальшаваньня нацыянальнае прыналежнасьці грамадзян Польшчы ў іх пашпартох ані ня зьменшыцца: яна станецца толькі *менш відочнай*.

Успамінаецца нам гэткае народнае апавяданьне. Неяк у даўныя часы ўночы глухой дарогай ехаў жыд-гандляр. Цёмна, зьбіўся з дарогі, — ажно раптам бачыць: перад самым канём быццам стаіць хтось, ды такі высокі, здаровы. Адзін на адзін і ня думай з ім змагацца! Тут наш купец кінуўся на хітрыкі: хуценька скінуўшы шапку і ярмолку з галавы, улажыў іх на абедзьве рукі і, падняўшы ўверх, пачаў адважна крычаць: „Эй, ты! Зыйдзі з дарогі, а то, як бач, адлупцуем цябе: нас тут трох!"

Няма ведама, ці разбойнік, калі-б гэта ён там быў запраўды, спалохаўся-бы „нас трох": у апавяданьні гаворыцца, што гэта быў не разбойнік, а—пень! Але мы перакананы, што калі-б польская адміністрацыя на „Kresach" паўзьдзявала конфэдэратку нават усім беларусам, украінцам, жыдом, літвіном і немцам, дый калі-б Польшча пачала свая ворагаў-суседзяў пужаць па сыстэме гэнага падарожнага жыда, кажучы, што ўсе жыхары яе—палякі, і затым яна нязвычайна дужая,— дык гэтаму нікто-бы ня даў веры: гэта-ж дзела йдзе ня з пнём, а з жывымі людзьмі, каторыя маюць вочы, каб бачыць, і вушы, каб чуць голас уціснаных у Польшчы „інародцаў", якія не перастануць істнаваць, што-б там ні пісала ўлада ў іх пашпартох.

**Ці споўнілі Вы свой абавязак адносна Цантр. Беларускай Школьнай Рады? Ці заплацілі Вы належачую ад Вас грашовую складку за гэты месяц?**

## У пятыя угодкі.

Пяць гадоў таму 15 студзеня 1919 году ў часе паўстаньня „Спартакаўцаў" у Нямеччыне, якое было крывава задушана праз „сацыяліста" Нoскэ,—былі забіты не ў адкрытай барацьбе, а подступам, як гэта кажуць, з-за вугла, правадыры запраўднага работніцкага рэвалюцыйнага руху Карусь Лібкнэхт і Роза Люксэмбург. Паўстаньне спартакаўцаў было задушаня; цаною крыві 20.000 ахвяраў, цаною жыцьця К. Лібкнэхта і Р. Люксэмбург захавала яшчэ на пэўкы час свае істнаваньне буржуазная Нямеччына, але толькі на пэўны час, бо змаганьне за вызваленьне пралетарыяту не задушана, а наадварот за гэтыя пяць гадоў яшчэ больш узмацавалася і недалёкі ўжо канец панаваньня нямецкай буржуазіі.

Са сьмерцяй К. Лібкнэхта і Р. Люксэмбург не памёрлі іх ідэі, не памёрла іх праграма; разьвіцьцё выпадкаў падцьвярджае перадсьмертныя словы К. Лібкнэхта:

„Наш човен плыве горда і моцна, простым шляхам да мэты. Калі дасягне яе, ці будзем жыць? Дарма! Жыць будзе наша праграма і панаваць будзе над сьветам вызваленай людзкасьці. Напрасны высілкі ворага!"

---

Ніжэй мы друкуем адрывак з прадмовы Розы Люксэмбург да зборніка артыкулаў Мэрынга, Каўтскага, Плеханава і інш. п. наз. „Kwestja polska a ruch socjalistyczny", дзе слаўная рэвалюцыянэрка выказвае свой пагляд на нацыянальнае пытаньне, якое для нас беларусаў зьяўляецца асабліва важным:

„Для работніцкай клясы нацыянальная справа ў нас не зьяўляецца і ня можа быць чужою, яе ня можа ня цікавіць самы цяжкі ў сваім варварстве, бо скіраваны на духовую культуру грамадзянства, уціск. Фактам, сьцьверджаным для чэсьці людзкасьці, у гісторыі ўсіх часаў зьяўляецца тое, што нават найбольшы нялюдзкі нават уціск *матар'яльных* інтарэсаў ня здольны выклікаць так фанатычнага, агністага бунту і ненавісьці, як уціск, які ўрываецца ў сфэру духовага жыцьця: уціск рэлігійны і нацыянальны. Але да гэраічнага бунту і мучаніцтва для абароны тых духовых цэннасьцяў зьяўляюцца здольнымі як раз толькі клясы рэвалюцыйныя з прычыны іх *матар'яльнага*, сацыяльнага палажэньня.

Памірыцца з нацыянальным уціскам, пераносіць яго з сабачай пакорнасьцяй магла ў нас шляхта, можа буржуазія—ўладаючыя клясы і цяпер у інтарэсах сваіх рэакцыйныя, клясы, якія зьяўляюцца запраўдным абразам таго грубага „матарыялізму" жывата, на які перарабляецца ў мазгох нашых дамарослых публіцыстаў матарыялістычная філёзофія Фэйэрбаха-Маркса. Наш пралетарыят, як кляса, якая ня мае ў сучасным грамадзянстве „матар'яльных маемасьцяў" і прызвана самым гістарычным разьвіцьцём да зваленьня ўсяго істнуючага ладу, словам, як кляса рэвалюцыйная, павінна адчуваць і адчувае і нацыянальны ўціск, як палючую рану, як ганьбу, хаця-ж фактам застаецца, што гэтая крыўда зьяўляецца капляй ува ўсім моры сацыяльнай нэндзы, палітычнага і духовага паніжэньня, якое становіць лёс капіталістычнага найміта ў сучасным грамадзянстве".

## Палітычныя падзеі.

### ПОЛЬШЧА.

Пішуць, што Пятлюра ўцёк з Польшчы, каб праз Румынію папасьці ў Рым.

---

Прэм'ер Грабскі назначыў сябраў арганізацыйнага камітэту Эмісыйнага Банку, які мае апрацаваць статут апошняга. Фахоўцы мін. скарбу маюць надзею, што ўжо ў лютым будзе створаны гэты Банк. Можа нарэшце і дачакаемся новай валюты.

---

### ГРЭЦЫЯ.

Як і можна было думаць, пасьля некалькіх няўдачных спробаў, нарэшце злажыўся габінэт з самім Вэнізэлёсам на чале.

### БАУГАРЫЯ.

Урадам Цанкава абвешчана амніэстыя ўсім удзельнікам апошняй хатняй вайны,—камуністам і аграрнай партыі. Выключаны з амністыі правадыры руху і арганізатары баёвак, а так-жа сябры папярэдняга габінэту.

### ІТАЛІЯ.

Кароль падпісаў дэкрэт аб роспуску парлямэнта.

# З газэт.

### Польскія балячкі.

Галоўныя тэмы газэтных стацей — гэта ўсё тая-ж балючая справа фінансаў і дарагоўлі. Пакуль што, кормяць народ абяцанкамі, што ...будзе йшчэ цяжэй, але затое палажэньне скарбу папраўіцца!

А тым часам, як падрахавала „Gazeta Warsz.“, *дарагоўля*, лічучы не на маркі, а *на даляры, за час ад 3 лістапада да 29 сьнежня мінулага году, значыць за два месяцы, узрасла ў пяць разоў*...

Другая справа, якой польская прэса вельмі займалася за апошні тыдзень, была справа назначэньня п. Язэпа Пілсудскага ізноў на становішча начальніка генеральнага штабу, якое ён займаў да „эндэцкае акупацыі“. Наколькі ўплывы эндэкаў пераважаюць у п. Прэзыдэнта Война Войцехоўскага, паказвае факт, што ён на гэтае назначэньне згоды ня даў...

У віленскай польскай прэсе зварачае на сябе ўвагу далейшае цкаваньне ўлады проці літоўскіх школ, чым, ведама, займаецца асабліва „Dziennik Wileński“. Хаця польскія школы ў Літве разьвіваюцца зусім свабодна, Обст кліча польскі ўрад, каб зачыніў усе прыватныя літоўскія школы ў Віленшчыне, дзе даволі істнуе літоўскіх школ, ведзеных польскім урадам (?!)

> Польшча—піша Обст—утрымлівае для Літвіноў урадовыя школы з літоўскай выкладовай мовай усюды, дзе знойдзецца 40 дзяцей, бацькі каторых гэтага зажадаюць.

Ну, так лгаць, як лжэ Обст, хіба больш ніхто не адважыцца! Праўда, тое, што кажа Обст, загадана польскімі законамі, але астаецца мёртвай літарай на паперы. Мы, беларусы, на сабе лішне добра пераканаліся, як гэты закон выглядае на дзеле: беларускіх школ, ня гледзячы на дамаганьні бацькоў не 40, а тысячаў беларускіх дзяцей, улада і ня думае адкрываць, а затое іменна там, дзе народ жадае беларускае школы, адкрываюць польскія школы, якія пустуюць...

Дый паміж радкоў обстаўскіх нараканьняў на Літву можна знайсьці запраўдную прычыну зьвягі на літоўскі народ: справа ў тым, што зямельная рэформа, якая ў Польшчы астаецца і дагэтуль пустым словам, у Літве праводзіцца ў жыцьцё вельмі энэргічна. А як бліզу ўсе абшарнікі ў Літве належаць да польскае нацыянальнасьці, дык надзяленьне безьзямельнага і малазямельнага сялянства зямлёй обсты тлумачаць імкненьнем зьніштожыць польскі элемэнт у Літве наагул.

Гэтак, у „Gaz. Warsz.“ чытаем такую вестку:

> На аснове ўставу аб зямельнай рэформе ў Літве падзелена зямлі: у 1919—20 г. г. — 7.258 гэктараў паміж 476 асобамі (у тым ліку ўсе 476—жаўнеры), у 1921 г. — 15,362 гэкт. паміж 1,026 асобамі (у тым 678 жаўнераў), у 1922 г.— 27,095 гэкт. паміж 2,852 асобамі (у тым 1,640 жаўнераў) і ў 1923 г.—64,520 гэкт. паміж 8,313 асобамі (у тым 2,198 жаўнераў). Як ведама, зямельная рэформа ў значнай меры скіравана проці польскае зямельнае ўласнасьці ў Літве, дык апошняя з гэтае прычыны вельмі пацярпела.

Вось, за што Обст кліча Польшчу да вайны з Літвой: у Вільні сядзіць цэлая грамада польскіх паноў з Літвы, землі якіх дзеляць між літоўскімі сялянамі, — а з кішані гэтых паноў чарпае пажыву эндэцкая газэта!

Мы можам толькі прывітаць Літоўскі народ, які сьмела і цьвёрда пайшоў па дарозе сацыяльнага вызваленьня працоўнага сялянства ад абшарніцкага панаваньня. Каб-жа і ў Польшчы народ хутчэй дабіўся магчымасьці зрабіць тое самае!

Пераходзячы да спраў заграничнае палітыкі, трэба адзначыць тое ўражаньне, якое зрабіла на польскую прэсу ўмова паміж Чэха-Славакіяй і Францыяй. Крайняя левыя і крайняя правыя (кансэрватыўныя) газэты бачаць у гэтым паражэньне Польшчы. Кракоўскі „Czas“ піша аб гэтым паміж іншым так, што гэты выпадак для польскае загранічнае палітыкі „вельмі некарысны“ і што

> „распачынае новы курс палітыкі на контынэнце, які з нашымі жыцьцёвымі патрэбамі будзе менш лічыцца, чым усе другія пасьля сусьветнае вайны“.

Паводле „Czasu“, чэска-французскі саюз

> „адпіхае нас (Польшчу) на далейшы плян у Цэнтральнай Эўропе“.

Наадварот, эндэцкая прэса з „Gaz. Warsz.“ наперадзе пацяшае грамадзянства, што чэха-французская ўмова ўмацоўвае вэрсальскі трактат, на якім толькі і дзержыцца незалежнасьць Польшчы...

Як няма лепшае, дык добрая і гэтая пацеха!

# Працэс беларусаў,

### абвінавачаных у прыгатаваньні паўстаньня проціў Польшчы ў Варшаўскім апэляцыйным Судзе.

(*Уражаньні*).

(Гл. „Змаганьне“ № 5).

Першым з абаронцаў гаварыў адвакат Врублеўскі. Сваю абарону ён пабудаваў якраз на тым, чаго не хапала ў пракурора, г. ё. на вымаганьні чыста — юрыдычнага абаперця вывадаў. Ёсьць дзьве школы абвінавачаных, ці абароны ў судзе. Адна дамагаецца зрабіць уражаньне на ўваабражэньне і пачуцьцё судзьдзяў, гэта, інакш кажучы, юрыдычны імпрэсыёнізм, — спосаб, які часта ўжываўся ў царскія часы, калі трэба было ўплываць на прысяжных засядацеляў,—асоб без юрыдычнай адукацыі. Гэтае мэтоды і прытрымліваецца пракурор, зусім забываючы, што перад ім цяпер толькі судзьдзі, юрысты-спэцыялісты, добра разумеючыя юрыдычнае значэньне іменна толькі цьвёрдых дадзеных, заснаваных не на дапушчэньнях і ўражаньнях, а на точных дакумэнтах. Тут у гэтай справе, абвінавачаньне пабудавана, галоўным чынам, на паказаньнях паліцыі. Не падрываючы значэньня паказаньняў паліцыі наагул, зазначае абаронца, трэба разьбірацца ў характары іх паказаньняў. Аналізуючы іх, ён падыходзіць да вываду, што гэныя паказаньні выходзяць альбо ад людзей не заслуговываючых даверыя, па зданьню іхняга-ж начальства, людзей, як Лянкевіч, якога пракурор лічыць патрыётам (мы прызвычаіліся, кажа абаронца, пад патрыятызмам разумець нешта іншае), альбо зусім не датыкаюцца справы і ў кожным выпадку не даюць нічога даводячага аб запраўдным учасьці абвінавачаных Якавюка і Барана ў антыўрадовай арганізацыі. Ёсьць усё, пачынаючы ад ночных выхадаў Барана з свайго памешканьня і канчаючы гандлёвымі „спэкуляцыямі“ Якавюка, але якая-ж сувязь усяго гэтага з абвінавачаньнем? Усе дадзеныя паказываюць толькі на магчымасьць падазронасьці і на настрой падсудных у адносінах да Польшчы. Але-ж па аднэй падазронасьці судзіць ня можна, а любоў да панства (дзяржавы) ніякімі юрыдычнымі законамі не прадугледжана. Дзяржава можа вымагаць ад сваіх жыхароў толькі лёйяльнасьці. Аба-

---

Ніякай ролі кіраўніка „русса-беларускай“ групы беларускага вучыцельства я на сябе ня браў, і ні ў якую „апазыцыю“ да беларускага нацыянальнага руху ў Латвіі я не станавіўся ды і станавіцца ня мог, бо гэты рух я сам тутака пачынаў і закладаў яго ўласнымі рукамі і ініцыятывай.

Далейшыя развагі Гуля аб тым, як мабілізаваліся сілы супроць беларускага адраджэньня ў Латвіі ўжо зьяўляюцца найчысьцейшай і злоснай выдумкай.

Гэтыя развагі і падтасоўка фактаў напамінаюць мне развагі „истинно-русских“ людзей у чорнасоценных расейскіх лістках.

Тутака і фантазія, і заўзятая брахня, і патрыятычны пафос, і шляхотны жэст — усё пераплятаецца і мабілізуецца на тое, каб „утапіць“ супрацоўніка і „асьвяціць“ факты ў належным „колеры“.

І запраўды малюнак II Беларускага Вучыцельскага Кангрэсу зроблены ўдала.

Чалавеку, незнаёмаму са справай, можа паказацца ён жудаснай праўдай.

Але справа стаяла крыху інакш.

Не гр. Езавітаў „гуртаваў“ апазыцыю беларускаму адраджэньню ў Латвіі і зьбіраў сілы для зусім непатрэбнага яму і дужа шкоднага для справы „бою“, а якраз наадварот—гр. Пігулеўскі, кіраваўшы курсамі ў Дзьвінску, сваёй нетактоўнасьцю, сухасьцю, пакрыківаньнямі, салдацка-чыноўнічымі адносінамі да вучыцельства зрабіў тое, што ўзбурыў на сябе ўсіх курсантаў і зрабіў іх варожымі да Дзьвінскага беларускага цэнтру.

Прыехаўшы на кангрэс, я убачыў на пэроне вакзалу абураныя і варожыя твары, кінуўшыяся да мяне і да гр. Сахарава з рознымі дакорамі і просьбамі.

Настрой вучыцельства быў для мяне дужа дзіўным і незразумелым.

Скаргі і апавяданьні аб адносінах да курсантаў справаджаліся сьлязьмі і істэрыкамі.

Кіраваць гэткім кангрэсам было дужа цяжка.

Тым больш цяжка, што Дзьвінская група чамусьці дэзэртыравала з гэтага кангрэсу і не паказывалася на сходах: калі-ж хто і паказываўся, як гр. Якубецкі, дык трымаў сябе гэтулькі абураюча-вызываюча, што сьвядома падліваў масла ў полымя.

У часе нэрвовых перарываў прыходзілася гутарыць з распаленымі прамоўцамі, супакойваць іх, умаўляць, каб зьнімалі тыя, часам дужа прыкрыя для гр. Пігулеўскага і некаторых іншых пэдагогаў *), выкладаўшых лекцыі на курсах, рэзалюцыі.

І ў гэтым напрамку настойчывай працай шмат чаго ўдалося зрабіць і многія беларускія імёны, якія дужа маглі-б быць скампрамітаваны, былі выратаваны ад гэтага гвалту.

Далейшае павінен быў лячыць час.

Што да пастановаў кангрэсу, дык у іх *зусім няма і ня было* тэй рэзалюцыі аб непатрэбнасьці курсаў беларусазнаўства, аб якой піша Гуль.

Гэта—нягодная выдумка.

Справа на кангрэсе ішла толькі аб адным:

Пасьля летніх курсаў Пэдагогічная Рада Курсаў хацела зрабіць экзамены.

Курсанты баяліся, што асабістыя адносіны, устанавіўшыяся на курсах, будуць прычынай помсты з боку кіраўніка курсаў гр. Пігулеўскага, і на экзаменыісьці баяліся, просячы іх не рабіць.

З гэтакай-жа просьбай пастанавіў і Кангрэс зьвярнуцца да Беларускага Аддзелу.

З боку нацыянальнае беларускае працы ў Латвіі Кангрэс зрабіў, нават, некаторыя дужа важныя пастановы.

Ён залажыў Беларускі Нацыянальны Вучыцельскі Хаўрус.

Ён пастанавіў пачаць зборы рэчаў для Беларускага Этнаграфічнага Музэю ў Латвіі.

Ен-жа загадаў сваім сябром пачаць зборы сьпеваў, апавяданьняў, мяйсцовых лягэндаў і асаблівасьцяў тутэйшага беларускага слоўніка для выкарыстаньня іх у друку.

Ён-жа пастанавіў і аб тым, каб будучым летам зрабіць для вучыцялёў беларускіх школак цыклёвыя курсы ў Рызе.

У гэтым-жа характару і далейшыя „факты“, апісаныя Гулем.

Ніякіх вучыцельскіх курсаў у Люцыне Беларускі Аддзел рабіць ня зьбіраўся і аб гэтым Міністра не прасіў.

Затое Люцынскае Беларускае Т-ва „Бацькаўшчына“ хацела адчыніць у Люцыне курсы латыскае мовы і курсы беларусазнаўства для дарослых, але не атрымала чамусь-ці дапамогі.

Таксама, як і Люцынская беларуская гімназія, якая цяперака зроблена ўжо урадовай, не атрымала чамусь-ці згоды на запрашэньне для працы у ёй беларусаў-інастранцаў і таму змушана карыстацца мяйсцовымі мала сьвядомымі нацыянальна элемэнтамі.

Шкода, што Гуль у канцы сваіх „Пісьмаў з Латвіі“ не дае свайго пляну працы, абмяжоўваючыся толькі агульнымі развагамі ды адпіскай аб тым, што:

„Я ня маю на мэце даваць якога-небудзь дэтальнага пляну патрэбнай акцыі, я зазначу толькі асноўныя, схэматычныя яе рысы.

„Рэальныя пэрспэктывы як бліжэйшага, гэтак і далейшага часу прымушаюць нас уважна прыглядацца і шукаць паразуменьня толькі з нацыянальнымі латыскімі коламі, бо калі галоўную працу беларускага нацыянальнага будаўніцтва ў Латвіі мы павінны праводзіць самі, дык поруч усё-ж такі толькі з латышамі.

„Наш шлях павінен быць цьвёрды і верны—арганізоўваць беларускае сялянства і памагаючы латыскаму народу ў арганізацыі яго дзяржавы, разам з ім будаваць і беларускае нацыянальна-культурнае жыцьцё ў Латвіі“.

У гэтых развагах няма ані воднага радка, пад якім я не падпісаўся-бы абедзьвюма рукамі.

Зразумела, што ў нашай нацыянальнай працы ў Латвіі мы можамо ісьці толькі з латыскімі нацыянальнымі коламі, бо дайсьці да згоды з меншасьцямі польскаю і расейскаю мы ня зможам дзеля таго ўжо, што павінны штодня змагацца за адваяваньне ад іх уплываў на нашае сялянства; з жыдамі-ж і немцамі у нас няма нічога супольнага па прычынах сацыяльных.

Умацаваньне нашага руху можа быць праведзена толькі праз нацыянальную арганізацыю і ўсьведамленьне нашага сялянства і мяшчанства, праз працу ня толькі культурна-прасьветную, але і эканамічную.

І гэта праўда.

Але для гэтага патрэбна ня грызьня і ўзаемнае абліваньне памыямі, не хаджэньне па соймавых і ўрадовых колах з „інфармацыямі“ аб сваіх працоўніках, а шырокая і дружная праца на мяйсцох, ў беларускай вёсцы.

**К. Езавітаў.**

Люцын, 28/XII. 23.

---

*) Трэба тутака адзначыць, што як у летку 1922 г., калі многія вучыцялі і вучыцелькі нязвычайна здружыліся з П. Мядзелка-Грыб, гэтак і цяперака усе у адзін голас толькі аб ей аднэй і адзываліся з вялікай пашанай і шчырай чуласьцю.

